ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# НАРАТЫЎ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА І ФЁДАРА ДАСТАЕЎСКАГА: УЗРОЎНІ РЭЦЭПЦЫІ

ІРЫНА ЧАСНОК

***Анатацыя:*** У артыкуле вызначаюцца і аналізуюцца ўзроўні рэцэпцыі паэтыкі Ф. Дастаеўскага ў творы К. Чорнага “Сястра”: сюжэтна-фабульны, ідэйны, катэгарыяльна-наратыўны. Супастаўляюцца раманы “Браты Карамазавы” Ф. Дастаеўскага і “Сястра” К. Чорнага.

***Ключавыя словы:*** наратыў, рэцэпцыя, раман, наратыўная стратэгія, абстрактны аўтар.

# KUŹMA ČORNY’S AND FYODOR DOSTOYEVSKY’S NARRATIVE: THE LEVELS OF RECEPTION

***Abstract:*** The article determines and analyses the plot-and-fable, ideological, categorical and narrative levels of reception of Dostoyevsky’s poetic manner in the work “Sister” by K. Čorny. Kuźma Čorny’s “Sister” novel is compared to Fyodor Dostoyevsky’s “The Brothers Karamazov”.

***Keywords:*** Narrative, Reception, Novel, Narrative Strategy, Abstract Author.

Ужо склалася пэўная традыцыя гаварыць пра Кузьму Чорнага менавіта ў сусветным кантэксце, найперш пра К. Чорнага і Ф. Дастаеўскага (гл. Адамовіч, 1972; Бугаёў, 1995; Тычына, 2004; Корань, 1996; Сінькова, 2009 і іншыя).

Нягледзячы на наяўнасць прац, у якіх праводзяцца паралелі паміж творчасцю Ф. Дастаеўскага і творчасцю К. Чорнага, застаецца шэраг адкрытых пытанняў.

Тыповая ацэнка рамана “Сястра”: *“псіхааналіз на мелкаводдзі”; “пісьменнік у даволі-такі аб’ёмным рамане не стварыў адчувальных, аб’ёмных характараў. Вобразы Казіміра Ірмалевіча, Ваці Браніслаўца, Абрама Ватасона статычныя. Ім бракуе руху, новых граняў характараў, якія б маглі паявіцца, каб у рамане разгортвалася сапраўднае дзеянне”* (Навуменка, 2000: 61). Аднак пазней даследчыкамі літаратуры ў розныя часы і ў рознай ступені была заўважана і абгрунтавана значнасць рамана.

К. Чорнаму ў “Сястры” ўдалося зафіксаваць “няўлоўны” ўнутраны свет чалавека ў яго дынаміцы з дапамогай фіксацыі асобных настрояў, эмоцый. Праз унутраны рух у рамане расце, раскрываецца характар. Ф. Дастаеўскі ў свой час даў выдатныя ўзоры выкарыстання падобных прыёмаў.

Л. Сінькова правяла аналогіі паміж раманам “Сястра” К. Чорнага і “Падлеткам” Ф. Дастаеўскага (гл. Сінькова, 2009). Аднак мы лічым, што пра рэцэпцыю, калі мець на ўвазе “Сястру”, дазваляе гаварыць і раман Ф. Дастаеўскага “Браты Карамазавы”.

Рэцэпцыя Чорным вопыту Дастаеўскага выяўляецца найперш на сюжэтна-фабульным узроўні.

Назіраюцца функцыянальныя аналогіі паміж вобразам Ваці з “Сястры” і Алёшам з “Братоў Карамазавых”. Гэта выключныя персанажы, з якімі звязаны духоўны пачатак. Ключавым звяном у рамане “Сястра”, што звязвае герояў, з’яўляецца вобраз Мані. Менавіта Маня кажа, што Ваця найлепшы з усіх. У “Братах Карамазавых” Грушанька, каханне да якой аб’ядноўвае Карамазава-бацьку і Карамазава-сына (Міцю), вылучае Алёшу як найлепшага.

Можна супаставіць таксама персанажаў-“настаўнікаў”, носьбітаў традыцыйных ведаў – іх ролю для рэфлексуючага героя: яна раскрываецца ў сяброўстве Ваці з Радзівонам Цівунчыкам і адносінах паміж Алёшам і старцам Зосімам. Відавочна, тут ёсць значныя адрозненні (у “Братах Карамазавых” Зосіма для Алёшы з’яўляецца аўтарытэтам, а Ваця Цівунчыка хутчэй шкадуе), аднак шмат і агульнага. Яднаюць Алёшу і Вацю жаданне чалавечай блізкасці, міласэрнасць і бунт, ментальныя пошукі… І Ваця, і Алёша не спыняюцца ў пошуках сябе.

Рэцэпцыю заўважаем і на ідэйным узроўні. Вацеў ліст да Радзівона Цівунчыка – тая самая “цыбулінка”, якую Алёша працягнуў Грушаньцы.

А жорсткасць Казімера да Абрама ў дзяцінстве суадносіцца з жорсткасцю дзяцей у дачыненні да Ілюшанькі ў "Братах Карамазавых".

Гуманістычная ідэя, якая гучыць у "Братах Карамазавых" – *"Всякий пред всеми за всех виноват"* (Достоевский, 1981), – відавочна, прымаецца К. Чорным. У рамане "Сястра" інтэнцыянальнасць аналагічная па сваёй сутнасці той, што рэалізаваная Ф. Дастаеўскім у "Братах Карамазавых". У "Сястры" таксама ёсць сцвярджэнне неабходнасці чалавечай блізкасці, узаемнай адказнасці, неабходнасці пераадолення маральнай прыніжанасці, патрэбы ў паступовым аднаўленні і маральным "уваскрашэнні".

Яскрава выяўляецца рэцэпцыя паэтыкі Дастаеўскага на катэгарыяльна-наратыўным узроўні. Тая самая наратыўная стратэгія (сукупнасць наратыўных працэдур, якія вытрымліваюцца, або наратыўных сродкаў, якія выкарыстоўваюцца для дасягнення пэўнай мэты ў рэпрэзентацыі наратыву (Ткачук, 2002: 79) – устаноўка на ментальную падзейнасць, якая выяўляецца ў рамане К. Чорнага, з'яўляецца адной з ключавых стратэгій Ф. Дастаеўскага.

Аповед у "Сястры" часта фрагментарны, імпульсіўны. У рамане К. Чорнага, як і ў Ф. Дастаеўскага, лісты найперш дапамагаюць раскрыць псіхалагічны стан персанажаў, іх індывідуальнасць, а значыць, прасачыць унутраную падзейнасць.

Найбольш істотным у рамане К. Чорнага "Сястра" з'яўляецца выяўленне, праблематызацыя ўнутраных пошукаў Ваці. У Вацевай душы назіраецца дынаміка, якая прыводзіць яго да "аднаўлення".

Герой спачатку нічым не цікавіцца, але ўжо хоча *"пазнаць усю шырыню"* (Чорны, 1973: 30). І ў пачуццях, і нават Вацевым пакоі пануе хаос. Ваця пакутуе з-за неразумення, адзіноты, з-за сваіх пачуццяў да Мані, разважае пра месца чалавека ва ўсім і ўсяго ў чалавеку, але не можа прыйсці да нейкай пэўнасці. Яму проста інтуітыўна хочацца адмаўляць тое, што прымаюць іншыя, ісці насуперак.

Дзякуючы ўнутранаму душэўнаму руху, герой эвалюцыянуе. Ужо ў першай частцы рамана наратар, калі распавядае пра сустрэчу Браніслаўца з Бонем і Казімерам на кватэры ў паэта-чмыхуна, адзначае: *"Пасля, аглядаючыся на пройдзеныя буры, успамінаючы іх і напорнасць, і слабасць, ён свядома лічыў момант гэты пачаткам вялікага аднаўлення ў сабе"* (Чорны, 1973: 86). Гэта сведчыць пра тое, што Ваця да аднаўлення прыйшоў і нават яго асэнсаваў.

Падобная дынаміка назіралася і ў "Братах Карамазавых" Дастаеўскага з вобразам Алёшы. Пасля смерці старца Зосімы і пасля няспраўджанай надзеі на цуд малады герой кажа айцу Паісію: *"Я против Бога моего не бунтуюся, я только «мира его не принимаю»"* (Достоевский, 1981: 23).

Паступова ж унутраны бунт і пошук прывялі Алёшу да разумення сябе самога і да разумення неабходнасці служэння людзям.

Нягледзячы на тое, што раман Ф. Дастаеўскага больш разгалінаваны і не абмяжоўваецца названай стратэгіяй, спецыяльны акцэнт на ментальнай, унутранай падзейнасці з'яўляецца адной з дамінантных стратэгій рамана.

У "Сястры", як і ў раманах рускага класіка, кожнаму голасу даецца слова, кожнае меркаванне выслухоўваецца і бярэцца пад увагу. Пры гэтым, згодна з высновай Д. Ліхачова, па ўсіх матэрыялах і меркаваннях Ф. Дастаеўскі выносіць свой прысуд (Лихачев, 1984). У рамане "Сястра" таксама можна заўважыць, што, нягледзячы на тое, што ўсе галасы ў творы значныя, відавочна, сімпатыі наратара на баку такіх герояў, як Маня, Цівунчык і, канечне, Ваця.

Паводле В. Шміда, у "Братах Карамазавых" выяўляецца дваістасць абстрактнага аўтара: той, які верыць, і той, які сумняецца (Шмид, 2003: 32–33). Падобнае знаходзім і ў рамане Чорнага "Сястра", толькі ўжо вера абстрактнага аўтара тычыцца не гуманізму, звязанага з Богам і рэлігійнасцю, а гуманізму ў "светлай камуністычнай будучыні". У творы спалучаецца надзея на новую ідэалогію, захапленне ёй і адначасова сумнеў, ваганні.

Як піша М. Тычына, у "Сястры" асновы старога гуманізму правяраюцца на трываласць у новых гістарычных умовах (Тычына, 2004). У рамане Ф. Дастаеўскага таксама ставіцца пытанне трываласці "старых ідэй". Хтосьці з герояў стаіць на іх пазіцыях, а хтосьці лічыць, што зараз ужо ўсё дазволена, калі няма Бога.

Такім чынам, рэцэпцыя наратыўнай культуры Ф. Дастаеўскага ў рамане К. Чорнага "Сястра" выяўляецца на сюжэтна-фабульным, ідэйным і катэгарыяльна-наратыўным узроўнях: назіраюцца функцыянальныя аналогіі з персанажамі, сітуацыямі з рамана Ф. Дастаеўскага "Браты Карамазавы"; ідэйныя ўстаноўкі ў названых раманах блізкія; выяўляецца рэцэпцыя адной з дамінантных наратыўных стратэгій "Братоў Карамазавых" – вывядзенне на першы план ментальнай падзейнасці; як і ў рамане Ф. Дастаеўскага, адзначаецца дваістасць абстрактнага аўтара.

### *Бібліяграфія*

1. Адамовіч, Алесь (1972). *Маштабнасць прозы: Урокі творчасці Кузьмы Чорнага.* Мінск: Навука і тэхніка.

2. Бугаёў, Дзмітрый (1995). "Дасягнутае і страчанае", у Дзмітрый Бугаёў, *Праўда і мужнасць таленту.* Мінск: Мастацкая літаратура.

3. Достоевский, Федор (1981). *Братья Карамазовы: Роман в 4-ех ч. с эпилогом.* Минск.

4. Корань, Людміла (1996). "Кузьма Чорны", у Людміла Корань, *Цукровы пеўнік: літ.-крытыч. арт.* Мінск: Мастацкая літаратура.

5. Лихачев, Дмитрий (1984). *Литература-реальность-литература: Статьи.* Ленинград: Советский писатель.

6. Навуменка, Іван (2000). *Ранні Кузьма Чорны (1923–1929).* Мінск: Беларуская навука.

7. Сінькова, Людміла (2009). "Выяўленчыя формы ў рамане К. Чорнага "Сястра": перазовы з мастацкай мовай рускай прозы 1920-х гг.", *Міфалогія – фальклор – літаратура: праблемы паэтыкі.* Мінск: РІВШ: 116–119.

8. Ткачук, Олександр (2002). *Наратологічний словник.* Тернопіль: Астон.

9. Тычына, Міхась (2004). *Кузьма Чорны: Эвалюцыя мастацкага мыслення.* Мінск: Беларуская навука.

10. Чорны, Кузьма (1973). *Раманы "Сястра", "Зямля".* Збор твораў: у 8 т. Т. 3. Мінск: Мастацкая літаратура.

11. Шмид, Вольф (2003). *Нарратология.* Москва: Языки славянской культуры.